# МІКОЛА КУПРЭЕЎ



# НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ



Мікола Купрэеў нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна.

Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут і выкладае ў школе родную мову і літаратуру.

Вершы М. Купрэева — лірычныя, значныя па свайму зместу і своеасаблівыя па форме — друкаваліся ў часопісах і газетах.

«Непазбежнасць»—першая кніга маладога паэта.

1

# Я ХАЦЕЎ ВАМ СКАЗАЦЬ...

*Я хацеў вам сказаць,*
*як на кончыку промня*
*калышацца ліст юнай яблыні,*
*і ліст той не вяне, бо промні другія —*
*з зямлі — струменяцца сокам ў яго;*

як добра мне, што сасудамі сэрца
звязаны я з зямнымі карэннямі,
а сонца ў вочы святло ўлівае,
і таму ад вачэй маіх светла кругом.

Я хацеў вам сказаць,
што вы, людзі, добрыя і суседскія,
як тыя лісты на дрэве:
на адным дрэве лістоў мільёны
прыжываюцца ў такт зялёны адзін,
і таму калі перад вамі
ціха падае ліст на сцяжынку,
вы задуменна і цёпла ў далоні свае яго ловіце,
як нехта і вас падтрымае калі.

Я хацеў вам сказаць,
што ў кожным з нас цячэ кроў Праметэя,
толькі часта нам хочацца быць звычайнымі,
што ў кожнай жанчыны
я бачу Венерыны рукі,
і таму я прашу:
мужчыны, у дні бяды,
дні адчаю будзьце ўсе Праметэямі —
агню сэрцаў дарогу давайце,

жанчыны,
дайце волю сваёй прыгажосці,
пяшчотнасці,
раскрыйце кветкай душу.

Я хацеў вам сказаць,
каб вы сэрцы свае не хавалі —
будзьце прамымі,
калі вы на віду,
быццам неба,—
жыць прыгажэй і лягчэй;
калі хлыне дождж —
ад яго не хавайцеся:
хай вас ён да ніткі, да жылкі прамые;
і ад сонца ў цень не хавайцеся —
хай яно праз вас промнямі працячэ.

Я хацеў вам сказаць,
што калі зеляненюць дрэвы —
вы іх не ламіце,
калі расцвітаюць кветкі —
вы іх не тапчыце,
калі жаўранак ў горле нясе зару —
вы лепш памаўчыце,

*калі вас абдымаюць,*
*цалуюць і шэпчуць —*
*любіце, любіце, любіце!*
*Калі душа перапоўніцца шчасцем —*
*вы песняй крычыце!*

*Я хацеў вам сказаць...*
*О, я многа хацеў вам сказаць!*

## ВАЙНА І ВЯСНА

Трывожная, ваенная.
І ўсё ж — вясна.
І, як мільярды год назад,
дзень пачынаўся раніцаю
яснай
і пупышкамі глядзеў у неба сад.
І быў я зусім яшчэ маленькі.
Пад старою яблыняй стаяў
і бачыў, як танюсенькі праменьчык
пупышку на галінцы саграваў.
Я прыўзняўся, дакрануўся пальцамі —
такі зялёненькі бутончык
на маршчыністай галінцы.—
Нібы я
сяджу на цёплых на руках у маці,
і рукі у яе, нібы галінкі, ціхія.
І раптам — кальнула штосьці
у руку балюча...
Замест пупышкі —
на зямлі зялёныя шматкі...
Мама ў хаце палатнянаю кашуляй

перавязвала мне, солячы слязой,
акрываўленыя пальцы той рукі,
якою гладзіў я нядаўна ў старым садзе
маленькую зялёненькую радасць.
Плача маці.
А потым доўга-доўга я стаяў у полі,
на высокім,
                        разварочаным снарадамі
                                                            ўзгорку,
стаяў нібы над цэлым светам,
                                                  над гэтым болем.
Над ранняй вясной сваёю горкай
стаяў я з перавязанай рукой.

## СОНЕЧКА

Было нам па шэсць гадкоў,
мне і ёй,
        суседскай дзяўчынцы
з сонечным імем Сонечка.
Мы разам гулялі.
Не помню, у што гулялі.
Не, помню, аднойчы з пяску мы будавалі домікі
і галіначкі клёну ўтыкалі ў пясок,
невялічкі капалі калодзеж.
І помню, была навальніца,
а мы з ёю беглі з лесу,
смяяліся і дзівіліся на маланкі
і нешта крычалі грому.
Больш нічога не помню,
толькі
        вочы — вялікія, светлыя, як маланкі...
Было нам па шэсць гадкоў,
калі Сонечкі раптам зусім не стала.
Памерла. Ад голаду.
Я нежывую яе не бачыў.
Я хаваўся за вёскай,

бо вельмі страшна было мне,
што Сонечкі раптам зусім не стала.
Гэта было страшней, чым фрыцавы танкі,
чым іх гарматы...
Калі прыязджаю здалёку я ў родную вёску,
у дні навальніц, маланак, грому
я ўспамінаю Сонечку.
Я думаю: трэба наведаць магілку.
І не іду!
О, як робіцца страшна, калі уяўлю:
я стаю ля магілкі,
а магілка — такая маленечкая,
а мне ж — дваццаць шэсць.

## ЗАМЕСТ ЛЕКЦЫІ ПРА ЖЫЦЦЁ

*Паліла сонца — дажджу хацелася,*
*дажджы наваліліся — сонца хацелася,*
*быў хлапчуком — пасталець хацелася,*
*выйшаў за трыццаць — юнацтва схацелася.*
*Стаў паміраць — жыць захацелася*
*у сонцы,*
*у ліўнях,*
*у юнацтве,*
*у сталасці*
*і — таму што жыў, жыў на зямлі! —*
*плакаў прад сконам ад гора і радасці.*

## ЮЛІЯНУ ТУВІМУ

*Як помста*
*будзеш ты блукаць па свеце*
*ад народа да народа...*
*Не замяце ніколі вецер*
*твае сляды ад Палесціны да Варшавы,*
*ад магілы да Наўрота.*

# РАКУЭЛ КЕНТ

Як толькі зіма грукне ў акно
марозам
і ля дарог загудуць неспакойна
дрэвы,
тады мне так хочацца, нават — трэба,
змяніўшы модны пінжак і гальштук
з пальмамі
на ватоўку простую,
выйсці на ганак высокі, круты.
З яго можна крануць пальцамі
гарачы кусочак марозу,
які застыў
на вогненных ягадах арабіны.
А свет прада мною — белы і сіні,
ад снегу ціхі і ад марозу звонкі
і такі самавіта стойкі,
што нават вунь тыя яліны
здаюцца вечнымі пірамідамі.
І гэты здаровы, чысты, крамяны
свет
шырока ў грудзі ідзе ка мне!

І ўжо рукам маім, сілай налітым,
трэба пакратаць зямлю —
праверыць, ці задрыжыць,
ці моцна трымаецца яна там,
на сваім цёплым і мяккім другім баку.

Трымаецца! Тады — на лыжы!
Міма заснежаных гарадоў,
па палях, па гарах, па далінах
ляцець, ляцець, ляцець!
І песняй звонкае цішыні
лажыцца за мною след.
І на гэтай зямной цішыні
расце і шырыцца дзіўны свет,
белы-белы і звонкі.
Яму і мне,
як снегу, і ветру, і вёснам,
не трэба граніц!
Мае лыжы — смычкі,
снег марозны — струны,
і нараджаецца песня!
Чуеце? Гэтая песня ляціць
да іншых сонцаў, да іншых планет.
Міма заснежаных гарадоў імчуся...

Вунь — Варшава.
«Дзень добры, свента Варшава!»
А потым — Берлін.
«Гутэн абэнд, Берлін, і спакойнай
ночы табе!»
А вось — і Эйфелева вежа.
«Банжур, масье Парыж!
Штосьці зіма мяккаватая ў вас.
Няўжо і цяпер сэ ля ві?
Ну добра, адзью, Парыж!»
Пагоркі Францыі далі мне разгон,
і я на лыжах,
нібы на крыллях,— праз вузкі Па-дэ-Кале.
«Лондан, олрайт!
Нешта, Лондан, над зімою тваёй
туман,
над зімой тваёй чорны дым. Олрайт!»
А потым — па лятучых снягах,
над акіянам,
праз Ісландыю — на Грэнландыю.
Скончан шлях.
Праз вароты зімы Бэніянам заходжу
у снежную песню Міру,
у край залатога Асгора,

дзе так усё проста, велічна і прыгожа.
І сам гаспадар Цішыні, Праматы, Яснаты
налівае кварты віна
мне,
сябру свайму, эскімосу,
што вярнуўся з мора з багатым уловам,
прыгожай сваёй Саллі
і сабе,
і мы п'ём да дна.
А потым, калі зоркі бліжэй падышлі да Зямлі,
нам доўга санаты іграла Саллі,
і апошняй была саната палёў, далін, гарадоў, гор
і пачатку зімы Зямлі, дзе стаіць
залаты і спакойны Асгор.

...Ніколі не быў я ў Грэнландыі...
Дзякуй табе, «Огонек»,
што даў магчымасць студэнту
павесіць у інтэрнаце над ложкам яго
рэпрадукцыі Ракуэла Кента.

# ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА

За сценамі дзесьці ў балотцах
мерзнуць пакінутыя журавіны.
Над хатай даўно ўжо, даўно ўжо
ў небе след адгарэў жураўліны.
За сценамі — восень Палесся глыбокая.
Хворы ляжу на канапе,
і слаба праз столь мне свецяцца
марозныя зоркі далёкія
і нерухомае жоўтае крылле Месяца.
І сасна за сцяною, высокая, звонкая —
як тэлевышка дзесьці ў сталіцы,
можа паказвае свету пакой мой
і прыкутага сэрца майго бліскавіцы.
Сцены, сцены! Шэрыя, тоўстыя сцены!
Меў бы кулак геркулесаў — дашчэнту разбіў бы!
О, як вочы мае захацелі,
як жылы мае захацелі
падняцца!
Як вецер асенні я піў бы!
Як вецер асенні я піў бы...
як вецер асенні...

Урачыста, ціха і светла —
паланез Агінскага...
Рукі не могуць... Крылы...
Дайце мне крылы!
Вось яны! Я ўзнімаюся.
Крылы праз сцены растуць.
Дом паднялі на сабе,
і мы разам ляцім над лясамі —
урачыста, ціха і светла.

Той Паланез...
Так балюча і радасна льецца
аднекуль з далёкага свету,
з таго нядаўняга свету,
дзе збіралі з табою мы лотаці белыя —
ціха і светла.

Успомні...
І я забуду,
што над хатай даўно ўжо, даўно ўжо
ў небе след адгарэў жураўліны,
што за сценамі дзесьці ў балотцах
мерзнуць пакінутыя журавіны.

* * *

*Калі разумець не хочаце*
*свежасць, зялёную цішыню —*
*не чапайце мой лес.*
*Калі разумець не хочаце,*
*як ранне сіняе б'е ў акно —*
*не чапайце мой бэз.*
*І калі з далоні спакойна*
*зерне дзяўбуць галубы —*
*галубоў вы маіх не чапайце!*
*І калі я па дарозе іду*
*і шчасця ўсім вам хачу —*
*вы, калі ласка, мяне не чапайце!*

## ЦІ БУДЗЕ НОЧ АПОШНЯЙ ЭЛЕГІІ?

*О ноч маіх вершаў!*
*Гімнаў не будзе.*
*Шэптам грымне элегія.*
*Нікога яна — не хвалюйцеся — не разбудзіць:*
*на тое — элегія...*

*Людзі ніколі тугі не шукалі,*
*людзі шукалі радасць.*
*Калі ж вочы людскія засумавалі,*
*значыць, туга — не*
*нечаканасць.*
*Значыць, ёсць, хоць яе не шукалі,*
*значыць, прыйшла сама*
*і схавалася дзесь у далінах душы,*
*як паміж сонца — зіма,*
*як на дрэве жывым — сук сухі,*
*як у месяцы маі — раптам снягі,*
*як лішні пялёстак — на бэзавай кветцы,*
*як песня жаўранка — у клетцы,*
*як у жанчыны — ненароджанае дзіця,*
*як апошні крок — у жыцця...*

Таму я і сам шукаю яе,
тугу,
пільнуючы зямное гора.
Знайду —
і сагну ў дугу,
сатру ў порах!
Той порах я падпалю —
цэлыя Гімалаі,
хай застанецца праху яго
грудка малая.
Тады гэта збярыце
і, як самы сучасны і арыгінальнейшы экспанат,
пад шкло ў Гугенхейм памясціце,
калі гэты музей хоча модным быць нат.
Таму ноччу не сплю.
У начной цішыні
відней і чутней
нашага веку грані...

Зараз — першы прамень празвініць.
О гімнаў маіх дарагое ранне!

# ЯК БЫЎ Я ЦЫГАНСКІМ БАРОНАМ

Праз мой край цыганы ехалі.
Я сустрэўся ім і спадабаўся.
Абдурыць не даў сябе цыганцы —
І таму, напэўна, спадабаўся.

Куды — не знаю сам, я з імі рынуўся,
бубянцы так ліха заліваліся...
Тры ночы з барадатым бацем
У кустах мы, нешта замышляючы, хаваліся.

Калі ж дабраліся ў далёкую Цыганію,
на мне ўжо быў парык кудлаты, чорны,
і карты тасаваць умеў я ліха,
і былі сваімі крадзеныя коні.

Я хітра ўмеў плясці славесы,
к голасу майму прыслухацца умеў прымусіць.
І маё ўжо сэрца не трывожылі,
пралятаючы на поўнач, гусі.

І вось на беразе Цыганкі ноччу
У наш шацёр сабраліся ўсе бацi.

Спрачаліся. І ўсё ж к світанню
мяне баронам сталі велічаці.

У капялюх насыпалі мне грошай,
адарылі мяне хромавымі ботамі,
і ўся Цыганія спявала
вясёлымі прарэзлівымі нотамі.

Прывялі ка мне цыганку Азу,
і я піў — куціў.
«І-эх, цыганачка Аза,
чарнавокая зараза!»

...Мне верылі, што буду я баронам
не такім, як быў ранейшы,
што зраблю шчаслівую Цыганію,
што буду я баронам разумнейшым.

І стаў пісаць я кнігі і артыкулы,
каб на маё імя ўсе пальцам тыкалі.
А зладзюгі гэтыя чытаць іх не умелі
або чытаць іх не хацелі.

Тады я стаў вучыць іх:
— Не туды ступіў — ступі сюды!

Не сюды пайшоў — ідзі туды!
Не так ўстаеш — вось так ўставай!
Не так пяеш — вось так спявай!

Душы маёй яны не зразумелі,
угаворваў іх я так і гэтак,
што, моў, і сыты будуць і адзеты
і што анёламі зраблю іх дзетак...

і на ўсю Цыганію аднойчы тройчы свіснулі —
усе баці як нахлынулі
і — мяне з баронства скінулі.

І калі з Цыганіі ўцякаў я,
аднекуль з неба рагатала Аза,
чарнамазая зараза.

# ПАДЗЕННЕ ІКАРА

Нага чалавека ўзмахнула ля берагу,
з мора, з пены.
Чалавека, што першым на свеце адчуў:
рукі — могуць быць крыллямі. Мы гэта ведаем.
Толькі метал наш на сонцы не плавіцца.
...Нага чалавека ўзмахнула ля берагу,
з мора, з пены.

А горы стаяць спакойна,
і неба, і мора — спакойныя,
і не трапечуцца ветразі караблёў,
пастух спакойна на кій абапёрся
і пазяхае ў неба,
дзелавіта араты ідзе ў векавечнасць палёў
і ніякага крылля яму не трэба...
Што нарабіў ты, Брэйгель Мужыцкі?!
Навошта такі спакой,
калі з пены марское нага Ікара
паказалася ў апошні раз?
А пастух пра ўсё гэта ведае:
занадта ўжо тэатральна
ён пазяхае ў неба.— Прыгледзьцеся.

## А МЫ ЎСЁ ПЫТАЕМСЯ

*У сябе мы пытаемся і ў другіх,*
*ці ёсць на зямлі каханне.*
*І чаму кожны з нас*
*ў васемнаццаць гадоў веснавых*
*не думае,*
*ці ёсць на зямлі каханне?*

*Паэзія.*
*Ці патрэбна яна людзям? —*
*У сябе і ў другіх мы пытаемся.*
*Праз тысячагоддзі крочыць Гамер к людзям,*
*а мы ўсё чамусьці пытаемся.*

## КАМЕНЬ

(Пра пастуха, карову, бусла, міма якіх мы праехалі, павярнуўшы з шашы на двухтысячным кіламетры.)

Неба прасторнае, чыстае,
аблокі плывуць меладычна, як песні...
А карова, дурная карова,
ад статка пайшла ў кукурузу:
на пашы стаптанай цесна.

Плывуць аблокі малочна-белыя...
А карове, дурной карове,
трэба лісце сочна-зялёнае,
каб даць чалавеку парное і белае.

Сонца цалуе зямлю залатымі промнямі...
Пастух за каровай бяжыць-кульгае,
і ляціць з матам камень і падае
на галаву між тупымі рагамі.

Заліваецца весела жаўранак у небе...
Нема мычыць карова і ў роспачы

б'е капытом у зямлю глухую,
як быццам аб нечым просячы...

Паняслася пад небам высокім і ціхім,
у статак вар'яткай урэзалася,
бусла напалохала
(ён спакойна хадзіў з каровамі
і нешта шукаў у траве),
яму не верылася...
(Бусел прывык да людзей
і да хатняй жывёлы.)
Адскочыў на некалькі метраў,
зноў спакойна ў траву ўглядаецца,
а карова з мычаннем немым
зноў здзічэла на птаха кідаецца.
(Буслу не верыцца: ён прывык да
людзей і да хатняй жывёлы.)

І толькі падхоплены рогам,
ён адчайна лапоча крыллем
і на ўсё паднябессе-надтраўе
раскрыўся кароткім крыкам...
Плыло па небу здзіўленне белае.
Туга расла на зямлі зялёна...

Нясла нас дарогамі палявымі
жалезная «Волга» шалёна.

Зямлю ахінуў цішынёю вечар,
рассыпаў па небу залатыя каралі...

А хто цябе, чалавек, знявечыў?
Якія рукі нервы твае развязалі?
Вайна? Сусед? Недарэчнасць?..
Заклінаю цябе і прашу:
не помсці небу за рану сваю былую,
не кідай, калі ласка, камень
у маю і сваю душу!

## СПРАДВЕЧНАЯ КАЗКА

Пакіну ўсё і пайду у той край,
дзе няма ні сяброў, ні ворагаў,
дзе бацька не будзе вучыць мяне жыць
і дзе жонка не будзе чакаць і тужыць,
крыўдаваць і злавацца не будзе,
дзе нікому ніколі не змагу я зманіць —
гэта нікому не будзе трэба,
ніхто не спытае:
дзе быў? што еў і што піў? і з кім?
а тое чаму не зрабіў?..
там нікому нічога не будзе трэба.

Пакіну ўсё і пайду у той край,
дзе няма ні дзвярэй, ні замкоў, ні пакояў,
дзе не скажа ніхто: гэта кефір,
а то — ліманад,
гэта графік,
а то — расклад;
дзе не будзе ні войнаў, ні міру
і раніць сэрца не будзе Зыкіна Волгай,
якая цячэ так каротка — не доўга...

Пакіну ўсё і пайду у той край,
цячэ дзе павольна шырокая Лета,
і, падтрыманы нябачнай рукой, паплыву на спіне,
паплыву, паплыву
па блакітнаму ціхаму свету.
І нічога, нічога не буду знаць,
што дзесьці ўгары нада мною Венера
і што пада мной Атлантыда — не буду знаць,
і буду плысці і плысці я ў Спакойную Эру.

Толькі бярозка адна нада мной
будзе лісцем сваім шалясцець, плывучы урачыста,
і лёгка
вочы замружыць мае
старадаўні навеў —
старадаўні спакой,
і ўсміхнуся я светла і чыста...

Усё застанецца. І я не пайду у той край.
У той край ніхто не хадзіў ніколі.

# АСЕННЯЕ

Вецер шпурнуў праз акно
хвалю асенняга лісця...

А я ж і не ведаў,
што лісце асенняе ёсць...

І хто тут гаспадар, а хто госць?..
Што ж мне рабіць з табой, восень?
Што ж мне рабіць з табой, вецер?

Няўжо было шчасце — засталося вецце?

...У шыбы, у сцены б'ецца
голае вецце.

## НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ

Непазбежнасць чыстага світання!
Блаславўляю светлы твой прыход!
Загаі мае ўчарашнія крутыя раны,
абнаві маіх парываў бураход!

На парозе новых расцвітанняў
я ўтрапёна ахінуся цішынёй,
працягну праз белыя туманы
рукі за фіялкай палявой.

Кіну ў неба жаўранку у крылца —
хай пялёсткі раскідае на палі.
Часцінкі майго сэрца будуць біцца
радасцю і смуткам па Зямлі.

І пайду да светлых я вытокаў,
як той вольны, ваяўнічы, мірны смерд,
аж пакуль не стрэне на гары высокай
мяне другая непазбежнасць — смерць.

# ЯК ЗЯМЛЯ ВЕРЦІЦЦА

Зямля вакол асі сваёй верціцца, верціцца.
І гэты вялікі горад, шумны, гарачы,
і гэты маленькі домік на ўскраіне —
верцяцца, верцяцца.

А ў доміку гэтым,
на чыстай падлозе, ля ложка —
скура заечая
вакол асі сваёй верціцца, верціцца.
Ад былое жывой галавы —
жоўты, сухі шматок
з вушамі счарсцвелымі
разам з Зямлёй вакол асі сваёй
верціцца, верціцца.

Сэрца і мозг былі дробяззю,
сталі тленам,
толькі мяккая поўсць сагравае чыесьці ногі,
ды ўжо і тая пад нагамі
ўспамінамі шэрымі робіцца,
прапускаючы холад з-пад тоўстай падлогі.

*

...Лёгка ляцелася з ветрам —
не ад пагоні, а ад таго,
што за ўзгоркам мурожныя нетры
з заечай капустай,
з заечаю бульбай чакаюць яго.

Ляцелася вольна, прасторна,
слалася мякка пад ім трава.
Агнём... У небыццё з узгорка
пакацілася галава...

*

Сняцца стоптанай скуры ля ложка
аўсы, верасы, лапкі зайчыхі, звон зялёнай расы...

Што ж, у пэўныя тэрміны года
страляць па зайцах дазволена.

Што ж, Зямля
і ўсё, што ёсць на ёй,
вакол асей сваіх верцяцца, верцяцца, верцяцца.

# ЛІСТАПАДНАЯ БАЛАДА

Ён павольна, павольна плыў з вершаліны,
да лістоў другіх дакранаўся тужліва,
і былі міжвецці яму як залівы,
дзе ён на імгненне сцішаўся.
Маўкліва браты яму ўслед глядзелі, шапацелі:
што ж ты зжаўцеў хутчэй нашага, што ж ты?
А ён так бяздумна і так безнадзейна
плыў у паветры маленечкім ветразем жоўтым.

І стаў дол яго портам жаданым,
ён утрапёна з зямлі углядаецца у вышыні.
А над ім белая маці-бяроза пытае:
«Як табе там, адзінокі мой сыне?»
Ён маўчыць. Ужо ён шапацець не можа...
Раптам жвава падскочыў: узняўся вецер!
І здрыганулася ўся бяроза,
неспакойна забілася вецце.
І за лістом — паляцела лісце,
лісце, лісце, жоўтае лісце.

Ляцець! — больш няма ім ніякага выйсця!

* * *

Начамі не зоркі гарацъ над светам —
то сэрцы паэтаў гарацъ...

Палкаводцы знікаюць у цемры каметай.
А зоркі...
А сэрцы паэтаў гарацъ!

Вунь над Расіяй,
над прасторам яе вялікім —
самая яркая зорка плыве.
То Пушкіна сэрца!
Славянскіх бяроз галінкі
цягнуцца ў рускае неба.
І зорка плыве.

Гарыць над Іспаніяй
сэрца Лоркі —
над горам радзімы, над сваёю ж крывёй...

Расстраляныя,
прабітыя кулямі зоркі —
сэрцы паэтаў гараць над зямлёй.



3*

# ЭЛЕГІЯ

Будуць, як тысячы год назад,
моры грымець прыбоямі.
Заглушыць вякоў вадаспад наш голас.

Героямі будуць доўга нас называць,
помнікі нам паставяць,
і будзем мы над самімі сабой стаяць
з рукамі, грудзямі са сталі.

Дзе сцежкі пракладвалі мы,
пралягуць шырокія ракетастрады.
Дзе тварылі, любілі, змагаліся,

верылі, плакалі мы,
будуць шчэ доўга як здані блукаць
нашы крокі, песні, здабыткі і страты.

Ды будзем ляцець мы ў сусвет
разам з нашчадкамі нашымі вялікімі...
І толькі мора на золку калі-нікалі
ў палымнеючы сонечны свет
на бераг зялёны кроплі крыві нашай выкіне.

# АПОШНЯГА СЛЕДУ НЕ БУДЗЕ

Я пачаў гэты верш на падлозе,
на звычайнай сасновай падлозе,
ля парога,
там, дзе пачаўся твой след,
прапахлы сіверным Уэленам, морам,
дарогаю доўгай дахаты.

Ты быў сапраўдным мужчынам,
і таму на след твой сляза мая не ўпадзе.
Калі зойдзе хто ў хату,
назаве мяне сёння вар'ятам.

на падлозе малюю твае сляды!
Сляды — з кутка у куток,
ля стала і ля кніжнай паліцы.
дзе стаяў ты ўзнёсла — прыгожы і малады —
і чытаў —
аж дрыжалі сцены:

«О весна без конца и без края!
Без конца и без края мечта!
Узнаю тебя, жизнь, принимаю
И приветствую звоном щита!»

Потым мы праз акно — у вячэрні сад.
На падаконніку след твой

агнём выпякаю!
На сляды тваё ў садзе

гронкі белага бэзу кідаю!
Раніцой на дарозе сляды тваё адшукаю!
Туды ж, дзе смерць раптоўна спаткала цябе,
слядоў я не буду шукаць.
О дружа мой, дружа,

слядоў тваіх больш я не буду шукаць.
Толькі ведай:

прадапошні твой след
выпякаю,
малюю,
чарчу,
выразаю

на небе Радзімы.

А апошні...
Не ведаю, дзе ён.
Вось і добра: не ведаю, дзе ён.

# І ЗА НАС

Калі ўчую на вуліцы смех дзяцей, іх гулянкі —
так хочацца босым да іх пабегчы...
Мо таму, што вайна была нашаю нянькай,
а так трэба маленства спазнаць чалавечае.

Ды не бягу на вуліцу. Сорамна. Скажуць: здурэў.
А сэрца ные... Ах, мілыя хлопчыкі!
Ганяйце мячы, бегайце і спявайце з дрэў
і за нас
на ўвесь свет;
на ўвесь свет
смейцеся, смейцеся, хлопчыкі!



## ЖУРАВЫ НЕ ПРАЛЯТАЮЦЬ МІМА

*Збіраліся доўга.*
*Блукалі.*
*Шукалі.*
*Ляцелі над ветрамі,*
*моклі ў дажджах.*

І раптам убачылі ўнізе зялёныя хвалі,
між хваляў — палянкі,
ў чаротах — блакітную стужку Начанкі,
мурожныя травы на паплавах.

Ніжэй апусціліся — ўбачылі росы,
свежыя кроплі на голлях лясоў.
Б'ецца птушынае сэрца:
здалося —
ў травах пасохлае пер'е
іхніх крылатых бацькоў...

І нешта прапелі у ранніх абшарах
і ўранілі на гнёзды старыя пух.
Развярнуліся ў небе,
на вялізных застылі хмарах
і, ўсхвалявана курлыкнуўшы, селі на луг.

...Успомніў — і стала цяжка:
праехаў міма,
роднае
за вагонным акном адплыло...
О, каб сэрца ў мяне было жураўлінае
ці, як у тых журавоў, чалавечнае сэрца было!

* * *

Пакліч жа мяне,
мая мама!
Я прыйду!
 Я прыйшоў,
 а цябе — няма.

Палажы мне,
мама,
на галаву свае рукі.
Я буду шукаць твае рукі.
 Я шукаў твае рукі,
 а іх — няма.

Скажы хоць здаля мне:
«Сын».
Я буду стаяць і чакаць...
 Я стаяў і чакаў,
 а голасу — больш няма.

Ой, не кліч мяне,
мама,
не кліч!

Нічога няма!
Знаю, што ты — была.
І была — вайна.
...Над магілай ўзнялася зара
агніста-чырвоным макам.
Дзень займаўся праменны, вясёлы...
А я першы раз
тут, над крыжам, заплакаў.

# БАЛАДА ПРА ПАРТЫЗАНСКІЯ ЧАРАВІКІ

*Ішлі над Дняпром партызаны*
*і больш ісці не маглі.*
*Балюча смылелі раны,*
*гарэнілі мазалі.*

*Няслі ў мяшках чаравікі.*
*Самалётам даставілі іх*
*з далёкай Зямлі Вялікай.*
*З аэрадрома няслі да сваіх.*

*І ўжо самі абуліся ў новыя.*
*Чаравікі рыпяць, рыпяць.*
*Ззаду дзень саракавярстовы.*
*Вечарэе.*
*Ах, хоць бы гадзінку паспаць —*
*на роднай сваёй зямлі,*
*ля роднай сваёй ракі.*

*І хвалі, як некалі, будуць*
*навяваць цішыню.*

Хоць на гадзінку хай
　　　　ногі, і рукі, і сэрцы забудуць пра вайну.
Пад маладымі сасёнкамі селі.
Прыціхлі былыя раны.
І на ўвесь свет засапелі
соладка партызаны.
Быў сон іх трагічны, апошні.
Ў іх кінулі тры гранаты.
З шасцярых толькі самы малодшы
расплюшчыць паспеў вачаняты
і небу ўсміхнуцца блакітнаму.
Апошнія сілы сабраў —
чаравікі ж на беразе...
І нагамі слабымі па аднаму
ён мяшкі у Дняпро штурхаў...
І панёс чаравікі Дняпро у мора.
Чорнае мора,
Міжземнае мора,
а там — акіян...

Калі я прыходжу на бераг Дняпра,
мне заўсёды здаецца:
Не! То не сосны рыпяць —
то чаравікі аднекуль, аднекуль рыпяць...

## ФРАГМЕНТЫ

«Ты, буй Рурыча, і Давідзе!
Ці ж не вашыя гэта ў крыві
пазлачоныя шоламы плавалі?!»

Байцы маладыя,
                    Міхаська і Віця!
Ці ж не вашыя гэта ў крыві
зялёныя каскі-шоламы плавалі?!

Не, не сокам жывяцца травы...

# ВЯСНА

Галава баліць, і сэрца разрываецца.
Занадта многа шчасця,
занадта многа кветак прынясла Вясна.
Зяляніны, птушак больш, чым неба,—
у галаву, у вочы, ў сэрца не ўмяшчаецца!
Вясна, прашу вас: перастаньце,
хачу пажыць, Вясна!
Столькі многа і адразу мне не трэба —
а то я ні ў чым не разбяруся...

Дайце, калі ласка, мне, Вясна,
вось тую кветку белую
і неба Беларусі!
І тую сцежку, дзе прайшла Яна.
І яшчэ хай ластаўка вунь тая
ляціць за Ёю ўслед,
і хай крылом кранае
сонечны над Ёй прамень,
і хай прамень той на ўвесь свет звініць!

Хай свету галава баліць!

# КАЛІ ХОЧАШ НАВЕДАЦЬ МОЙ КРАЙ

*Шчасце тут не міне*
*ні цябе, ні мяне.*
*Прыязджай.*
*Прыязджай!*
*З-за бярэзніку выйдзе насустрач табе*
*курган-каравай,*
*■ потым,*
*адразу,*
*як мора,*
*пойдзе к табе*
*гэты дзіўны ўвесь край —*
*з белым цветам бульбяным,*
*з мядоваю грэчкаю,*
*з сонечнымі палянамі,*
*з чыстымі рэчкамі.*
*А світальныя росы і неба над імі —*
*як чэшскі крышталь.*
*Снамі плыве зямнымі*
*зачараваная даль.*
*У кожнай хаце*

будзе покут табе багаты.
Накормяць, напояць і наспяваюць
прыветлівыя дзяўчаты.
Прыязджай!
Толькі хачу папярэдзіць:
ад бруду,
калі ён ёсць,
шчэ здаля
ногі свае выцірай,
рукі свае выцірай,
сэрца сваё выцірай —
калі хочаш наведаць
мой родны
зялёна-блакітны край.

# НАЙВЯЛІКШАЕ АДКРЫЦЦЁ

Добрыя людзі адкрылі:
форму шара мае Зямля.
І вось на ўсіх берагах —
у Расіі, Індыі, Чылі, Італіі
тыя, каго пакінулі,
тыя, з кім развіталіся,
узбіраюцца на маякі,
на дахі высокіх дамоў —
каб яшчэ раз угледзець мачту
адплываючага карабля.

А я на сваім Палессі,
раздзіраючы скуру далоняў,
лезу на крохкі вяршок сасны —
каб яшчэ раз угледзець
крыло адлятаючага жураўля.

# ГАРАДЫ СПЫНЯЮЦЦА ЛЯ АСТРАВОЎ

І вось я ў вёсачцы палескай Востраў...
О, як добра, людзі, тут у вас,
мілыя мае вы астраўляне!..
Хай праплываюць гарады гарачыя ля вас,
як караблі ля вострава у акіяне.
Хай.
І хай я той бадзяга, што з борта нырнуў
у гэты акіян зялёны,
каб у вашы сэрцы ціхія зірнуць,
паслухаць шэпт бярозак вашых, клёнаў...

Дай, брыгадзір, і мне касу, ды вострую!
Хай кладуцца травы малаком.
Хачу і я ў лугах за Вострававам,
як і вы, адменным стаць касцом.
Цётка Гэля, дзякую табе за сала,
з ім можна увесь луг скасіць.
Толькі ведаеш што, цётка,—
ты прабач, а гэтага мне мала:
я хачу, каб песню праспявала

твая Марынка,
як буду позна вечарам з касой дамоўісці.
Тую песню — помніш? У гады дзявочыя
ты спявала пра травіначку ў лугах,
пра светлы сон, пра светлы сон.
Калі ж не ведае Марынка,— навучы яе.
Ты ёй скажы, скажы,
што тая песня прыгажэй за «Дзігі-дон»...

...Вось дзякую табе, Марынка мілая!
Табе маці не сказала — ты сама
бегла вечарам да Начы сіняе
з ручніком.
Табе маці не сказала — ты сама
заспявала песню, ды сваю, без слоў,
пра светлы сон.
О, як добра, людзі, тут у вас!
Які у вас тут свежы вецер!
Паслухайце, якая цішыня на свеце —
то гарады спыніліся ля вас,
як караблі ля астравоў у акіяне.
Родныя мае вы астраўляне...

## ЦІШЫНЯ

Пойдзем у тыя лясы,
дзе і сцежак няма!
У Харошша!
Там толькі лоша з сахатым праз нетры ляцяць.
Там восень нас сваім золатам заварожыць,
пад соснамі-свечкамі
верасы будуць вечарам дагараць.

Там блакітная цішыня праплыве над лесам,
барвова-зялёная цішыня ападае на дол.
Нязлосна мядзведзіха лае
пад елкаю мішку-гарэзу.
Заяц носіць капусту спакойна
на пень, як на стол.

Нехта жэніцца там на вавёрцы прыгожай,
баль спраўляюць на соснах,
а сосны лятуць ў вышыню...
Пойдзем са мною!
Там цябе добрае заварожыць,
там ты пачуеш міру адвечнага шумную цішыню.

* * *

Калі мяне не будзе доўга,
мой родны дом, заві мяне —
пусці слупом высока з коміна
дым. Той самы дым...
Пах дроў бярозавых

У старане
далёкай, з-за гор, з-за мораў —
дым...

## ЛЯСНЫЯ СПОЛАХІ

Далёка абыходжу тыя сосны:
там некалі знянацку я спалохаў
вавёрку, што заклапочана лушчыла сабе шышкі
на зіму. А я — спалохаў.

У мяне й самога сэрца здрыганулася,
калі яна (было так блізка)
у роспачы прарэзліва кугікнула
і, распусціўшы лапкі, нібы крылы,
скокнула на сук другой сасны.

Сарвалася. Прынікшы долу,
прама ў вочы мне маленькімі сваімі глянула.
Я павярнуўся і пакрочыў шпарка
на край лесу. І чуў, як ззаду
неспакойна гойдалася вецце...

О, як хацеў я, каб яна вярнулася
да шышак той сасны!
Не ведаю...
Далёка абыходжу месца стрэчы.

## БУСЛЫ

*Якім восеннім днём ці вечарам*
*яны зрабілі тут апошні круг?*
*Калі? Не разумею... Снег. І нечага не хапае...*
*Падае з вышыняў белы пух.*

# БЕЛАРУСКІ ТРЫПЦІХ

1

Стаю над Дняпром.
На слядах сваіх продкаў стаю.
Таму з экзатычнага поўдня ляцеў —
на Радзіму, на радасць, на боль свой
як апантаны ляцеў.

А ён пеша ішоў
дзве тысячы вёрст —
мой прадзед Ярмола.
Праз стэпы, лясы — наўпрост.
Апошнюю — сотую! — пару лапцей
ён дадому ў руках прынёс.

Яму, як і мне,
набаялі нешта
пра моры блакітныя,
стэпы раздольныя,
рэкі малочныя,
пра кубанскія пірагі —
і хацелася нам быць птахамі вольнымі...

*А з выраю ж птушкі імкнуцца на родныя берагі.*
*І вярталіся мы.*
*Беларусы вярталіся.*
*На зялёнае мора сваё.*
*Да бульбы сваёй і жыта,*
*да соснаў сваіх і бяроз.*
*І — ці прыме радзіма? — баяліся.*

*А яна, як заўжды, маўчала*
*і — прымала,*
*пыл з нас заморскі страсала,*
*свежай вадой абмывала,*
*паесці давала.*

*...Ведалі, ведаем:*
*ёсць Яна!*
*І нас без Яе — няма.*

2

*О мая чыстая Белая Русь!*
*Я тысячы год да цябе ішоў.*
*Быў я ант, быў я смерд,*
*быў радзіміч, крывіч, дрыгавіч.*

Раскосым не стаў ад татара-манголаў,
ад туркаў не стаў гарбаносым,
не стаў уніятам,
а хацеў я — і стаў:
непакорлівым,
мірным,
бела-русавалосым.
О мая чыстая Белая Русь!
Я тысячы год
цябе ў сабе нёс.

3

«Зорка Венера ўзышла»...
Небам тваім
напʼюся,
зямлёю тваёй
захлынуся,
у травы твае
забʼюся,
хай
адлятаюць у вырай гусі,
а я застаюся! —
«Зорка Венера ўзышла»...

# АРЫНІНА СТУДНЯ

*Паэма*

Ведаў, што хатка там будзе з сасны,
ля Мілавід, пад бярозамі.
І са студні ўсплываць, як салодкія сны,
вядзёрцы з вадой, нібы з сокам бярозавым.
Бабулька (ёй будзе сто год)
мне зачэрпне кварту сцюдзёнай вадзіцы:
«Пі, унучак».
І, пакуль буду я піць нагбом,
стане распытваць,
жыве дзе мая радзіма,
які там сёлета ўраджай,
ці прайшоў сёння раніцай дожджык,
ці збірае маці мая іван-чай,
ці ўмею плясці я кошык...

Так і ёсць: хатка, бярозы, бабулька сівая.
(Толькі не сто ёй — сто дзесяць гадоў.)
Павольна да студні з сяней ківае.
«Пі, унучак.
Заблудзіў ці знаў, куды йшоў?»

«Знаў».
«То добра. Напіся і ў хату паесці зайдзі»...
І стала распытваць,
жыве дзе мая радзіма...
Спытала,
ці прайшоў там у нас
сёння раніцай дожджык,

не спытала,
ці ўмею плясці я кошык...

На стале,
што засланы абрусам вышытым,—
міска засквараная таўканіцы
і гладышка
кіслага малака.
І глядзела бабулька
вачмі паражытымі

з-пад броваў густых —
з-пад ільнянага валакна...

А потым, калі, палагоднеўшы,
за поўдзень пераваліла Ярыла,
дала мне яшчэ раз вадзіцы напіцца
і на дарогу мяне
правяла бабка Арына.



О высокія песні-сосны,
ціхаструйныя ручайкі...
З дубовых лістоў промні сонца
спадаюць, як тонкія ручнікі.

Стаміўся.
Збочыў з дарогі.
Гарачай спіной прытуліўся
да свежай бярозы.

Цішыня.
Чутно, як ліст на траву упаў...

І вось яно:
голас,
нібыта з зямной глыбіні,
пазваў:
«Арынка».
«Што, мама?»
«Там, ля студні, глядзі, нехта стаў...
Не магу я падняцца, Арынка»...

І бачу:
у зрэбнай кашулі дзяўчынка
выходзіць на ганак беднай хацінкі
з бяроставым коўшыкам у руцэ,
а ля студні —
незнаёмы высокі мужчына

чакае яе.
«Ото малайчына»,—
кажа кабета ў хаце,
з ложка прыўзняўшыся да акна.

А чалавек усміхнууся Арынцы.
Ён у вопратцы простай сялянскай.
«Ах, якая стаіць тут гарачыня!» —
І загледзеўся ўдалеч, задумаўся,
паўтарыў:
«Гарачыня...
у нас,
на Белай Русі...»

Зачарпнула Арынка вадзіцы,
незнаёмаму падала.
Ён зноў паглядзеў удалеч —
на палі, на лугі, на лясы
і, перад тым як паднесці да вуснаў коўшык,
прашаптаў:

«Роднай вадзіцы напіцца —
можа ў апошні раз...
Дзякуй, дзяўчынка.
Жадаю
прычакаць табе лепшы час».
Пацалаваў Арынку,
пайшоў на дарогу.
Сказала услед Арынка:
«Дзядзечка! Як цябе зваць?»
Азірнуўся:
«Ігнат. Ігнат Вітажэнец».
І пайшоў. А дзяўчынка ля студні тужыць.
Пайшоў па дарозе,
добры, высокі, дужы —
Ігнат Вітажэнец.

(Ці думаў тады ён,
што хутка здраднік, супольнік былы,
з пятлёю яго ажэніць...)
Малілася хворая ў хаце мацеры боскай:
«Ігнат Вітажэнец?
А я думала: родны наш Каліноўскі...»
Але шчэ доўга чамусьці Арыніна маці
берагла той коўшык з бяросты белае

за іконаю ў хаце.
А ўчора скакала дарогаю тою
дзесяць палкоў.
Пыл злосна клубіўся з-пад падкоў.
Ля хаткі злез афіцэр з каня:
«Хозяйка! Воды!»
Адказала Арыніна маці:
«Няма ў нас вады,
вычарпана да дна».
«Кем?»
«Не ведаем. Мабыць, месяц
ноччу з неба сыходзіў піць».
Вылаяўся афіцэр
і з крываваю шабляй ад студні ляціць...
Ніхто з іх тут вады не напіўся...
Дзесяць палкоў...
Пыл злосна клубіўся
з-пад падкоў.

*

Арынка, далёкая тая дзяўчынка...
Стаіць ля дарогі, між кветак,
у сукенцы бялюткай, з касою русай.

А з лагчыны
ірвануліся раптам у неба
дзікія гусі.
Абудзілі прастор неспакойным крыкам —
быццам да сонца з сабой паняслі
тугу па хвалях свежых, вялікіх,
якіх не хапае зямлі...

*

Рана ўставала, жала, капала, арала,
гаравала, плакала і спявала,
кудзелю прала, палотны ткала,
кветкі і слёзы ў касу заплятала,
цалавала, кахала, раджала,
на турэцкую,
        на японскую мужыка і сыноў аддавала —
не прычакала,
пяць разоў хату і студню сваю абнаўляла,
лепшы час прычакала,
ды сівою бабулькаю стала
і ўжо сабе месца вечнае аблюбавала —
                                        Арына.



Жораў сасновы рыпіць
так ціха, што чуе ўвесь свет.
Дае людзям добрым Арына ліць
І ў хату заве на абед.

Рашучы Дзяржынскі ля студні стаяў,
піў шчырасць зямлі беларускай.
«Дзенькую»,— па-польску Арыне сказаў
і «спасибо» — па-руску.
На развітанне пацалаваў папросту...
Піў з таго самага коўшыка з белай бярозы.

Была тут і Вера Харужая,
уцякаючы ад дэфензівы.
Палівала з вядзёрка чырвоныя ружы
пад страхою Арынінай ранкам сінім.

Дэпутат тут першы ў сельскі Савет
наказ Арынін слухаў,
запіваючы гасцінны абед
вадою з той самае студні...

*

З чым іду я, чаго і куды
па дарогах радзімага краю?
І чаго гэта я, малады,
ўжо за нешта сябе дакараю?

Там не зрабіў усяго, што мог?
А там мо зрабіў не тое?
Можа з многіх жыццёвых дарог
выбраў сабе цяжкое?

*

...Я вяртаўся ў лясныя краі свае...
Вось тая хатка і студня.
Ды не выйшла Арына!
Жораў драўляны тужліва маўчыць у сіняве,
і вокны глядзяць на мяне неяк нудна.

Я дзверы тузаў са ўсяе свае сілы —
не адчыніліся дзверы...
Прывяла мяне сцежка ад ганка да свежай магілы,
а я ўсё не верыў...

Спусціўся з бярозы першы асенні ліст на крыж,
і з неба трывожны крык жураўліны,
не адбіўшыся рэхам, упаў на магільную цішу,
на халоднае сэрца Арыны.

✷

І зноў я ля студні Арынінай. Надта
на дарогу схацелася выпіць вадзіцы той.
Спускаю вядро
на самае дно.
Раптам,
курлыкнуўшы,
жораў імкліва вядро з вадой
сам вынес са студні!
Стаю, маўчу.
І вось, здалося, з глыбіні зямлі
голас ціхі Арынін пачуў:
«Ну чаго ж ты, унучак? Пі».

Дзе ж той коўшык з бярösты белай?
Мо стаў ён карой спарахнелай?..
Я адшукаю яго, знайду!
Я помнік яму пастаўлю



5

*у цэнтры зямлі беларускай зялёна-сонечнай*
*і эпітафію напішу:*
*«З яго Каліноўскі пачаў піць ваду —*
*другія кончылі».*

3

## ПРАЙШЛА ЖАНЧЫНА

Ці знаеце вы,
ці знаеце вы,
чаму Нёман такі блакітны?
Берагам Нёмана ўчора прайшла жанчына
з вачамі блакітнымі.

А ці знаеце вы,
чаму зямля тут такая спакойная?
Тут учора прайшла жанчына
ўрчыста-спакойная, гордая.

А ці знаеце вы,
чаму дзень такі светлы?
Тут учора прайшла жанчына
нагамі босымі, белымі.

Ну, а чаму сарамлівая тая вада,
што вось тут, ля берагу, застаялася?
Тут учора жанчына купалася.

А чаму,
чаму неба та̀кое вясёлае?
Тут звонка ўчора жанчына смяялася.

## ТАК ЯНО ПАЧЫНАЛАСЯ

За вёскаю ля ракі
дзяўчынка кароў пасла.
Рукі і ножкі — чатыры крылы —
на траву палажыла
і ціха спявала песню без слоў:
«Ля-ля»...
У алешніку вецер шумеў.
«Ля-ля»...
Рыбка білася ў чаратах.
«Ля-ля».
Сонца плыло над зялёным, блакітным,
над марай-Марынкай,
над белай хусцінкай.
«Ля-ля»...
Дзяўчынка кароў пасла.
Каровы схаваліся ў кустах —
яна іх не йдзе шукаць.
Апошняе «ля» на губах,
і жоўтая лотаць ў руках,
і ўжо сполах ў вачах.
Нехта блукае ў кустах.

Знае Марынка, хто!
Вунь выглядвае вокам адным з-за куста
на бераг —
на рукі, на ногі, на ўсё.
«Бессаромнік!»
І крылы з травы узняла
і, не падняўшы падолу сукенкі,
хутка рэчаньку перайшла
і тым берагам доўга бегла —
ляцела спалоханай ластаўкай.
Сустрэлася цётка Наста:
«А кароў хто пасе?»
Марынка крыкнула на ляту:
«Там ваш Коля...
Хай ваш Коля кароў пасе!»
...Не забыць, не забыць, не забыць
пра раку,
пра траву,
пра крылы...
Пра дзяўчыначку маладу.
Гэта было калісьці.
Толькі будзе мне помніцца,
помніцца
тое зялёнае лісце.



Па вуліцы плыў тапаліны пух —
за горад, за рэчку, у белае мора рамонкаў...
Потым вечар барвова гарэў
і Буг між зор калыхаў нашу ціхую лодку.
У той вечар плылі мы з табой па рацэ
ад бацькоў насцярожаных нашых, бурклівых,
па Млечнаму Шляху плылі маўклівым...
Берag...
Рамонак, скамечаны ў тваёй руцэ,
як пальцы аслаблі, ажыў імкліва
і злоўленай зоркаю стаў —
промнямі белымі расцвітаў.
...У світанне плылі з берагоў чараты.
І вось —
        твае губы першы нясмелы прамень дастаў,
і на ўвесь гэты свет засмяялася ты,
і я разам з сонцам цябе цалаваў,
плывучы, плывучы, плывучы.

## ЯБЛЫНЬКІ

С. Ежанковай

*Празрыстыя,*
*тоненькія*
*дзяўчынкі*
*нясуць у руках па яблыку.*
*А рукі —*
*тоненькія,*
*як галінкі,*
*і самі дзяўчынкі —*
*як маладыя яблынькі.*
*Босыя,*
*у зялёненькіх сарафанчыках,*
*з вострымі касічкамі.*
*І глядзяць на хлопчыкаў стрэчных*
*вачамі-дзічкамі.*
*А ў ручках —*
*па яблыку.*
*Белы наліў.*

## АПАНТАНЫ

Падаю на мяккі вільготны мох, пад бярозку.
З расой прыйдзе вечар.
Будзе добра ляжаць на зямлі,
слухаць ля самага вока травінку,
шэпат бярозы,
мармытанне крынічкі пад дубам,
мураўіныя воклічы перад
сном...

І будзе так усё проста.
Складана і проста.
І будзе прагалак між соснаў
у зорнае неба акном.

Што ж я сёння шукаў? Што ж я сёння пакінуў
там, за лесам, за вечарам, за палямі,—
у тым шумным шматпавярховым свеце,
што я пакінуў?

З радасцю? З жалем?..

Вырастала над горадам сонца. Нядзеля.
З каштанаў раса на асфальт ападала.

У пакоі ўсміхаўся і плакаў —
спяваў Раберціна Ларэці,
а Яна прада мною так юна стаяла,
і ў вясёлых Яе валасах
гладзіў я промні сонца,
і Яна глыбінёю вачэй сваіх светлых
вочы мае цалавала.

Потым мы з Ёю выходзілі з дому,
ішлі па Зялёным праспекце
з вялізнай блакітнай сумкай,
заходзілі ў магазіны,
куплялі бульбу, мяса, капусту, цыбулю і перац,
зборнікі вершаў Тувіма і Лугаўскога...
Потым Яна варыла, я тупаў вакол
і перашкаджаў Ёй. Біла мяне ручніком
і, як заўжды, перасольвала.

Потым спалохаўся шчасця,
уцёк пад смалістыя сосны.
Ляжу пад сузор'ем Лебедзя, сцішаны, босы.
Чую цяжкое дыханне Зямлі,
чую, як па той бок Зямлі
плывуць і гудуць акіянскія караблі.

І я стаю на іх палубах,
плыву, выбіраю свой бераг,
іду праз пустыні і стэпы
і падаю тут вось на мяккі вільготны мох...

Звонка падае шышка у ціш сасняку.
Вострым рогам Месяц п'е малако бярозы.
І чую, як п'юць ваду з ручайка
разгарачаны лось з нясмела-прыгожай лошай.
Чую, як шэпчуцца, адыходзячы.

Бягу роснай сцежкай, дарогай, полем.
У горад. Да той, што чакае мяне,
стаіць ля начнога акна,
накінуўшы шалік на плечы дрыготкія.

Зноў уцякаю ад шчасця — у шчасце.
Калі гэта кончыцца?
Хай не канчаецца!
Хай толькі зноў там усё у Яе парасоліцца!

## КВЕТКІ Ў РАСЕ

*Месяц над садам.*
*Пах яблыкаў.*
*Ціхая рэчка ў сонных кустах.*
*І Ты — у садзе, пад яблыняй, потым —*
*ля рэчкі.*
*Усё гэта некалі я забуду — калі*
*раптам захоча прырода, каб я на гады —*
*можа на тысячу год —*
*прылёг адпачыць ад шляхоў, ад турбот,*
*ад яблыкаў паху, ад рэчкі ў сонных кустах.*
*Потым зноў я раджуся.*
*Вырасту зноў.*
*Свет нанова пазнаю,*
*успомню, быў ён калісьці якім.*
*Буду я рады многаму.*
*І зноў маладосцю*
*вочы мае расцвітуць, як заўжды, на вякі,*
*і буду рады сабе я, новаму.*
*Ды я не зразумею,*
*на свет нарадзіўшыся зноў,*
*і патомкаў сваіх, і сябе, і эпохі,*

калі не сустрэну на гэтай Зямлі
тое самае зноў:
месяц над садам, пах яблыкаў,
ціхую рэчку ў сонных кустах
і кветкі ў расе ля дарогі.

Адна з тых кветак
(прашу вас, прашу вас, патомкі:
збеpажыце кветкі!) —
адна — будзе той самай дзяўчынкай,
будзе белаю-белай рамонкай,
і будуць дрыжаць на вейках
расінкі-слязінкі,
як некалі ў той дзяўчынкі...

## ЗМЕСТ

1

**Купрэеў Мікола**
Непазбежнасць. Мінск, «Беларусь», 1967.
88 с. з іл. Бел2

На белорусском языке. Николай Семенович Купреев. Неизбежность.

Рэдактар М. Капыловіч. Мастак Б. Малкін. Мастацкі рэдактар Л. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. Аніскевіч. Карэктар Р. Мяцеліца.

АТ 00594. Здадзена ў набор 26/XI 1966 г. Падп. да друку 10/III 1967 г. Тыраж 4 000 экз. Фармат $84 \times 108^{1}/_{64}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,31. Уч.-выд. арк. 2,1. Зак. 1913. Цана 14 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Камітэта па друку пры Савеце Міністраў Беларускай ССР. Мінск, Чырвоная, 23.

